Газета Слонімская
25 — 31 траўня, 2000г. № 22 (155)

# СЛОНІМШЧЫНА Ў ДАКУМЕНТАХ БНР




Ужо больш года назад выйшаў з друку першы збор дакументаў Беларускай Народнай Рэспублікі, падрыхтаваны беларускім гісторыкам і перакладчыкам Сяргеем Шупам. На жаль, і сёння гэтае выданне з'яўляецца малавядомым на Беларусі і ўяўляе сабой бібліяграфічную каштоўнасць.

Сяргей Шупа, які жыве ў Вільні, шмат гадоў працаваў у архівах, вывучаючы фонды БНР. Усе выяўленыя дакументы ён апрацаваў, набраў на камп'ютэры, зрабіў да іх каментары, а таксама падрыхтаваў макеты кніг. Дзякуючы дапамозе беларускай эміграцыі, свет пабачылі кнігі "Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі" (т. 1, кн. 1 і 2, Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага).

Збор дакументаў дае магчымасць пазнаёміцца з той сітуацыяй, у якой ствараласся незалежная беларуская дзяржаўнасць у 1918 годзе, з дзеячамі, арганізацыямі, партыямі, якія дзейнічалі ў тыя часы. Да з'яўлення некаторых дакументаў з "Архіваў БНР" спрычыніліся і нашы землякі.

У часы нямецкай акупацыі 1918 года многія жыхары Беларусі звярталіся ва ўстановы БНР з просьбай аб выдачы ім якіх-небудзь папер, якія пацвярджалі б іх асобу. У "Архівах БНР" ёсць дакументы, якія выдаваліся слонімцам у Менску. Напрыклад, пасведчанне Народнага Сакратарыяту БНР, выдадзенае 28 красавіка 1918 года Мікалаю Міську ў тым, што "ён беларус Горадзенскай губэрні, Слонімскага павету, Жыровіцкай воласці, вёскі Русакова". Ёсць тут і пасведчанне, выдадзенае 9 жніўня 1918 года Народным Сакратарыятам БНР Аляксею Цупрыку "у тым, што ён грамадзянін-беларус Гродзенскай губэрні, Слонімскага павету, Міжэрыцкай воласці, вёскі Юхновічы". А Іосіфу Борышанскаму 10 жніўня 1918 г. Народны Сакратарыят БНР выдаў пасведчанне, што "ён сын грамадзяніна Беларусі Горадзенскай губэрні, Слонімскага павету, Дворцаўскай воласці, мястэчка Дворца Вульфа Борышанскага й мае патрэбу выехаць у Харкаў".

9 ліпеня 1918 г. Народны Сакратарыят БНР звярнуўся да нямецкага каменданта Менска з просьбай выдаць Рыгору Данілевічу пропуск на праезд у Слонімскі павет. У той час нямецкія акупацыйныя ўлады ўвялі абмежаванне на праезд па Беларусі і толькі яны выдавалі прапускі. Органы ўлады БНР у Менску не мелі такога права, бо абшар іх дзейнасці акупантамі абмяжоўваўся Менскім паветам.

Слонімцы не толькі атрымоўвалі ад устаноў БНР дакументы, але і грашовыя пазыкі. Нехта Тодар Янушэнка са Слоніма 14 ліпеня 1920 года атрымаў праз вядомага дзеяча Вацлава Іваноўскага ад Беларускага нацыянальнага камітэта 500 польскіх марак "да вылічэння". Праз тыдзень той жа Янушэнка, які прадстаўляў ужо Ваўкавыск, атрымаў яшчэ 300 польскіх марак. Магчыма, гэта быў нейкі супрацоўнік Найвышэйшай Рады БНР. Слонімец Лукаш Дзекуць-Малей, як старшыня Школьнай Рады Гродзеншчыны, у ліпені 1920 г. таксама атрымаў дапамогу праз Вацлава Іваноўскага – 2000 польскіх марак. Праўдападобна, на падтрыманне беларускіх школ і настаўнікаў Гродзеншчыны.

У кнізе другой першага тома "Архіваў БНР" змешчана асабістая анкета нашага земляка Васіля Захаркі, запоўненая ім дзесьці ў 1919-20 гады (дакладная дата невядомая). З яе мы можам даведацца шмат цікавых вестак пра жыццё і дзейнасць Захаркі. Напрыклад, што ён валодаў беларускай, рускай і польскай мовамі, і што "калі нікалі даваў стацці палітычнага і нацыянальнага характару ў перыядычную прэсу". На пытанне "Ваш погляд на беларускую дзяржаўнасць?", Васіль Захарка адказаў: "Шчыра веру, беларускі народ дабудзе суверэннасць і сапраўды стане сам гаспадаром на сваёй зямельцы". А на пытанне "Якімі шляхамі павінна ісці беларуская дзяржаўная праца?", ён напісаў: "Трэба як можна больш развіваць нацыянальнае самасазнанне нашага народу, і дабівацца і моцна стаяць, пры усялякіх варунках, на незалежнасці і непадзельнасці Беларусі і толькі такім чынам ў канцы канцоў дасягнем нашых ідэалаў".

У дакументах Беларускай Народнай Рэспублікі згадваецца яшчэ адзін наш зямляк – Янка Бялькевіч. Да гэтага часу мы ведалі яго як мовазнаўца, настаўніка. Аказалася, што Бялькевіч быў актыўным сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Напрыклад, ён удзельнічаў у надзвычайным сходзе Рады БНР у Менску 13 снежня 1919 г., на якім было абвешчана стварэнне Народнай Рады БНР. Прадстаўляў Бялькевіч не толькі БПСР, але і "Цэнтральны Беларускі Вучыцельскі Саюз у Вільні". Імя слонімца згадваецца побач з імёнамі лідэраў эсэраў Тамаша Грыба, Палуты Бадуновай. У дакументах БПСР Янка Бялькевіч называецца як "Аспаваты". У чэрвені 1924 года слонімец браў удзел у "ліквідацыйным з'ездзе" БПСР у Менску, які праводзіўся (неафіцыйна) органамі савецкай дзяржбяспекі. Подпіс Бялькевіча стаяў пад дэкларацыяй з'езду.

У "Архівах БНР" змешчаны ўрывак з ліста Янкі Бялькевіча з Мсціслава, дзе ён працаваў дырэктарам педагагічнага тэхнікума, Вацлаву Ластоўскаму ў Коўна (Каўнас) ад 7 лістапада 1925 года, у якім ён прасіў дапамагчы Інбелкульту з выданнем збору твораў М. Багдановіча: "...Цяпер троху аб сабе. Пры паляках быў арыштаваны, сядзеў колькі месяцаў у турме, а потым быў вывезены разам з Грыбам да Варшавы, але па дарозе выскачыў з вагона на поўным ходзе цягніка і прышоў да Менску. У Менску арганізоўваў Камісарыят Асветы і быў загадчыкам Беларускага аддзелу, а потым загадч. школьным аддзелам. З адчыненнем у 1922 г. універсітэту, паступіў на лінгвістычнае аддзяленне [п]а беларускай сэкцыі і ў гэтым годзе скончыў курс навукі універсітэцкай. Цяпер мяне прызначылі за Дырэктара Педагагічнага Тэхнікуму ў старым горадзе Мсціслаўлі, дзе я і працую; праводжу беларусізацыю на ўсходзе...".

Слонімшчына часта згадваецца ў дакументах БНР. Аднак, гэта згадкі пра асобных людзей ці пра нейкія падзеі. Упамінаецца яна і ў кантэксце прэтэнзій на тэрыторыю Заходняй Беларусі суседніх дзяржаў. Пра мясцовыя дзяржаўныя ўстановы, на жаль, няма ніякіх звестак. Але гэта толькі заахвочвае да далейшых пошукаў.

**Сяргей ЁРШ**

**кніга ў газеце**

## Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» *(з гісторыі зямлі Слонімскай)*

Згодна даных савецкіх крыніц, за тры гады нямецкай акупацыі на Слонімшчыне было расстраляна, павешана і замучана 41 663 чалавекі (лічба можа быць недакладнай) і 2 264 асобы вывезены ў Нямеччыну. Партызанаў жа загінула 221 чалавек.

5 ліпеня 1944 года войскі I Беларускага фронту пад камандаваннем маршала К. Ракасоўскага пачалі наступленне на баранавіцка-слонімскім напрамку. Непасрэдны ўдзел у гэтых аперацыях прымалі многія дывізіі 65-й арміі генерала П. Батава і авіяцыя 16-ай паветранай арміі. У жорсткіх бітвах 10 ліпеня 1944 года Слонім быў ачышчаны ад нямецкіх акупантаў, але ляжаў у руінах.

11 вайсковым злучэнням і часцям, прымаўшым актыўны ўдзел у вызваленні Слонімшчыны, было прысвоена ганаровае званне "Слонімскіх". Вось яны, гэтыя часці і злучэнні: 199-ая штурмавая авіяцыйная дывізія (камандаваў палкоўнік М. Вінаградаў), 19-ая (палкоўнік У. Яршоў) і 35-ая (палкоўнік І. Гаўрылаў) механізаваныя брыгады, 30-ты (палкоўнік А. Гераськін), 32-гі (маёр А. Шахмаеў) і 34-ты (падпалкоўнік І. Жылін) Кубанскія гвардзейскія казацкія кавалерыйскія палкі, 151-шы асобны танкавы полк (маёр П. Бакін), 925-ты Чырвонасцяжны лёгкі самаходны артполк (падпалкоўнік П. Ложкін), 181-шы гвардзейскі армейскі арт.-мінамётны полк (маёр Я. Лісіцкі), 899-ты карпусны сапёрны батальён (маёр В. Белякоў).

Фронт пасунуўся на захад, але для жыхароў Слонімшчыны ваенныя ліхалецці яшчэ далёка не скончыліся. Праз некалькі месяцаў ваенкамат з удзелам новых уладаў падчысціў амаль усіх мужчынаў, якіх кінулі амаль без падрыхтоўкі ў самае пекла ваенных падзей. Гэта стала сапраўдным знішчэннем людзей, трупамі якіх масціўся шлях да перамогі. Замест дарагіх сем'ям людзей, на радзіму вярталіся "пахаронкі". Не вярнулася ж на Слонімшчыну 1.568 чалавек. Край гэты стаў краем маўклівых абеліскаў і брацкіх магіл.

Вось няпоўны іх пералік.

Слонім — скульптурная кампазіцыя ўстаноўлена на могілках па вул. Баранавіцкай, на брацкай магіле 25 воінаў, загінуўшых у Другую сусветную вайну.

Слонім — абеліск і вечны агонь на брацкай магіле перазахаваных 110 савецкіх салдат, загінуўшых у 1941 і 1944 гадах. Магіла знаходзіцца пры шашы на Зэльву.

Слонім — у гарадскім скверы пры вуліцы імя Пушкіна — скульптура воіна на высокім пастаменце — побач з брацкімі магіламі 957 савецкіх воінаў перазахаваных з наваколля. Перад помнікам гарыць вечны агонь.

Тут жа помнік на магіле Героя Савецкага Саюза К. Гнедаша і радысткі К. Давідзюк.

Слонім — за 1 км на ўсход ад горада, у маладым лесе (на так званых Чапялёўскіх палях), пры шашы на Баранавічы — стэла пры 8-мі брацкіх магілах, дзе гітлераўцамі расстраляны ў 1941 годзе 8 тысяч яўрэяў, а пасля яшчэ каля 14,8 тысяч тых жа мірных жыхароў Слоніма.

Слонім — за 5 км ад горада, пры дарозе на вёску Дзераўная (уроч. Маргі) у лесе — абеліск на магілах расстраляных немцамі 2-х тысяч яўрэяў.

Слонім — помнік на могілках памерлых у ваенным шпіталі воінаў, на ўскрайку лесу між Слонімам і Альбярцінам.

76

Азарычы — абеліск на магіле 14 вяскоўцаў, расстраляных фашыстамі 24.12.1943 г.

Азярніца — стэла і бетонны штык — у школьным двары, на брацкіх магілах 223 савецкіх воінаў, перазахаваных з тэрыторыі сельсавета. Гэта ахвяры баёў 1941 і 1944 гадоў.

Акунінава — стэла на магіле 229 жыхароў вёскі, расстраляных гітлераўцамі ў час аблавы 22.12.1942 г. Вёска з 111 двароў была спалена.

Акунінава — абеліск на партызанскім могільніку, дзе пахаваны 41 партызан, якія загінулі ў баях з акупантамі ў 1942-1944 гадах.

Баравікі — абеліск на магіле 84 аднавяскоўцаў, расстраляных гітлераўцамі 25.12.1942 года.

Баравікі — абеліск на вясковых могілках, дзе ў трох магілах пахаваны 19 аднавяскоўцаў, расстраляных немцамі 22.9.1942 года.

Баравікі — абеліск ва ўрочышчы Ліпнікі на месцы расстрэлу 17 жыхароў вёскі ў верасні 1942 г. Трупы фашысты кінулі ў калодзеж.

Васілевічы — мемарыяльны знак на магілах 270 аднавяскоўцаў, расстраляных гітлераўскімі карнікамі 16.12.1942 года.

Васілевічы — скульптура воіна і партызанкі, устаноўлена на могілках, дзе перазахаваны 121 воін, якія загінулі ў баях 1941 і 1944 гадоў.

Вербалаты — абеліск на могілках, дзе пахаваны 40 аднавяскоўцаў, расстраляных фашыстамі ў снежні 1942 года ў час карнай аперацыі "Гамбург".

Вострава — курган з абеліскам на вяршыні, узведзены над магілай 22 савецкіх воінаў, загінуўшых у 1941 годзе.

Вялікая Кракотка — на суцэльным пастаменце стэла і бетонны штык, дзе пахаваны 359 воінаў савецкай арміі, якія загінулі ў 1944 годзе.

Вялікая Кракотка — абеліск побач з могілкамі, дзе пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя гітлераўскімі карнікамі ў час акупацыі.

Вялікія Шылавічы — стэла і штык на пастаменце, дзе пахаваны 48 воінаў савецкай арміі.

Гарбачы — абеліск на магіле 25 вяскоўцаў, расстраляных фашысцкімі карнікамі ў час аперацыі "Гамбург" 25.12.1942 года.

Глоўсевічы — скульптурная група са стэлай устаноўлена на месцы перазахавання 42 партызан, воінаў і мірных жыхароў вёскі, загінуўшых ад рук фашыстаў у 1941-1944 гадах, на стэле прозвішчы 23 землякоў, загінуўшых на фронце.

Драпава — скульптура жанчыны на магіле 12 воінаў, што загінулі ў баях у 1941 і 1944 гадах.

Жыровічы — абеліск на брацкай магіле 47 воінаў і партызан, якія загінулі ў часы Другой сусветнай вайны.

Жыровічы — скульптурны помнік на магіле невядомага пагранічніка.

Заводны Лес — абеліск на ўзлессі, дзе пахаваны 121 жыхар вёскі, што былі расстраляны гітлераўцамі 22.8.1942 года. Тут жа і магілы 35 партызан з брыгады імя К. Ракасоўскага.

**(Пачатак у №44,45,47,51 за 98г., №8,11,14,17,19,23,26,28,29,32, 34-37,39-48,50,52 за 99г., №4,7,10,12,15,18,20 за 2000г.)**

77

# ВЛЮБЛЕННЫЙ в музыку

**Сокровища музыкальной культуры, накопленные за многовековую историю человечества, поистине несметны. Музыка нужна всем, ведь сколько есть людей разных профессий и судеб, для которых музыка стала спутником жизни. Одним из них является Александр Масленицын, преподаватель слонимской музыкальной школы.**

Для него, выпускника суворовского училища, офицера, музыка стала не просто увлечением, а любимым делом. Именно в музыке проявилась его творческая индивидуальность.

— Еще во время учебы в Горьковском суворовском училище, — говорит Александр Александрович, — у меня проявился интерес к музыке. Уже будучи офицером, я заочно учился в музыкальном училище и весь свой отпуск отдавал учебе. После окончания училища с отличием поступил в Белорусскую государственную консерваторию. Вот и работаю преподавателем в слонимской детской музыкальной школе. Сочиняю музыку.

**— А в каких музыкальных жанрах вы пишете?**

— В различных. Среди моих сочинений преобладают песни: "Мамы танцуюць вальс" на слова слонимского поэта Сергея Чигрина, "Патрыятычная песня" на слова Алены Руцкой и другие. Пишу музыку для детей, например, цикл "Басни дедушки Крылова", песня "Колыбельная Слоненка".

Одним из моих любимых жанров является военная песня. Я всегда преклонялся перед героизмом наших соотечественников в годы Великой Отечественной войны. Подвигу народа посвящена моя кантата в трех частях "Война" на слова Роберта Рождественского.



*Музицирует Александр Масленицин*

**— А какое сочинение вы считаете вершиной своего музыкального творчества?**

— Одним из лучших моих произведений, я думаю, является "Реквием" на стихи Анны Ахматовой, посвященный жертвам необоснованных репрессий. Ноты "Реквиема" находятся в музее Анны Ахматовой в Санкт-Петербурге. Исторической тематике посвящена кантата "Парушанае слова" по одной из легенд моей дочери Ирины. Горжусь написанной в 1987 году оперой "Лесная история" (по сказке из романа Г. Серебряковой "Похищение огня").

**— Опера "Лесная история" относится к жанру театральной музыки. А какой жанр преобладает в Вашем творчестве и кто обычно исполняет Ваши произведения?**

— Я пишу преимущественно музыку для хоров слонимской музыкальной школы. Мои произведения также вошли в репертуар образцового хора "Журавінка" города Минска, с которым они выступали на сценах Германии, Чехии, Польши. Сотрудничество с этим замечательным хором — одна из самых незабываемых страниц моей жизни.

Работа с истинными мастерами своего дела всегда доставляла мне огромное удовольствие. Здесь не могу не упомянуть народный камерный ансамбль "Орфеон", которым я руковожу. А вообще, я хочу сказать, что тот, кто поистине предан своему делу, не упустит ни единой возможности усовершенствовать свои навыки. Главное — выбрать правильную дорогу в самом начале жизненного пути.

**Антонина СНЫТКОВА**

# У МЕДВУЧЫЛІШЧА — БЕЗ ЭКЗАМЕНАЎ

**Прыём на вучобу ў Слонімскае медвучылішча сёлета будзе трохі зменены. Пра гэта карэспандэнту "ГС" у эксклюзіўным інтэрв'ю сказаў дырэктар вучылішча Ігар Ванькові́ч.**



— У 1999 годзе конкурс пры паступленні ў нашу навучальную ўстанову не перавышаў 1,5 чалавека на месца, — паведаміў Ігар Казіміравіч. — Таму сёлета нам дазволілі 60% абітурыентаў залічыць у вучылішча па атэстацыйных адзнаках. Гэта значыць, што 108 чалавек будзе прынята ў вучылішча па атэстатах, а астатнія будуць здаваць экзамены. Тыя, хто будзе залічаны без экзаменаў, у атэстатах павінны мець толькі добрыя і выдатныя адзнакі. Сёлета набор у вучылішча складае 180 чалавек.

***— Значыць, тыя, хто не пройдзе конкурс атэстатаў, могуць здаваць экзамены?***

— Так. А медалісты будуць залічаны адразу.

***— Калі да вас у медвучылішча прыйдзе 108 медалістаў, вы ўсіх іх залічыце?***

— Усіх залічым, а 109-ты абітурыент ужо будзе здаваць экзамены. Праўда, такога не прадбачыцца. Па статыстыцы да нас падаюць дакументы дзесьці 25-30 медалістаў.

***— На якую спецыяльнасць больш за ўсё паступаюць дзяўчаты і хлопцы?***

— У нас адна спецыяльнасць "Сястрынская справа". Навучэнцы два гады вучацца па гэтай спецыяльнасці, а пасля на конкурснай аснове могуць бясплатна працягваць вучобу па спецыяльнасці "Фельчарска-акушэрская справа" і, закончыўшы медвучылішча, атрымліваюць два дыпломы.

***— Ці будуць да вас паступаць і тыя, хто мае мэтавыя накіраванні?***

— Так, будуць. 16 траўня мы атрымалі дакументы аб кантрактна-мэтавай падрыхтоўцы медработнікаў. І план вучылішча ўжо разасланы па раёнах. Тыя, хто будзе мець накірунак ад медустановы, пасля заканчэння вучылішча абавязкова павінны будуць вярнуцца туды працаваць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Благородная акция

**В Гродно завершился месячник "Забота", который проводился с 17 апреля по 17 мая.**

Целью акции было выявление нуждающихся детей и оказание им помощи. Коллективами школ был организован сбор одежды и школьных принадлежностей. Эти вещи передавались детям-сиротам, детям-инвалидам и детям из малообеспеченных и многодетных семей.

На сегодняшний день в Гродно — городе с 310-тысячным населением — насчитывается более 5 тысяч детей с особенностями психофизического развития и 639 детей-инвалидов, а также около 5 тысяч малообеспеченных, более 8 тысяч неполных и 818 неблагополучных семей.

**Ася КУНИЦКАЯ**

# ОТМЕТИНА

В саду, возле своего родного дома, Фёдор Николаевич спилил старую, переставшую плодоносить яблоню. Его сынишка-второклассник, разглядывая срез на пне, спросил с любопытством:

— Папка, скажи, почему колечки на пне то широкие, то узенькие?

— Всё очень просто: широкое кольцо — хороший год, дереву хватало тепла и пищи. Узкое колечко — год холодный и голодный.

Фёдор Николаевич склонился над пнём.

— Видишь, здесь кольца широкие, а здесь стали уже. Можно сосчитать, когда это началось... Раз, два, три, четыре... Больше пятидесяти лет назад. Постой, постой... Так это же...

Догадка осветила давно забытую картину.

Первое лето войны... Отец Фёдора Николаевича с вещевым мешком за плечами, опустив голову, медленно идёт по саду мимо яблонь и вишен, словно прощается с ними. Он легонько касается рукой стволов деревьев, которые сам посадил, за которыми годами любовно ухаживал...

Больше они отца не увидели. И сад без хозяина запустел, зарос сорняками...

— Что же ты молчишь, папа? — торопил отца второклассник Максимка.

Что мог сказать Фёдор Николаевич ему, родившемуся всего девять лет назад? Уж если дерево, пережившее войну, несло в себе её отметину, то какой рубец оставила она в живых человеческих сердцах!

**Лилия ПРУДНИКОВА**

ТЕСТ ДЛЯ РОДИТЕЛЕЙ

# "Я - вундеркинд!"

**Каждый ребенок по-своему уникален. А проявляется эта уникальность с... пеленок, и долг родителей "не проморгать" задатки своего чада.**

**1**. Ваш ребенок задает всяческие оригинальные вопросы, ставя подчас даже взрослых в затруднительное положение — 2 очка.

**2**. У него самого на те же вопросы уже готовы столь неожиданные ответы — 1 очко.

**3**. Ваш ребенок любит шутки и сам обладает чувством юмора — 2 очка.

**4**. Ваш ребенок с неохотой выполняет привычные дела: чистка зубов, мытье посуды, прогулки с собакой — 1 очко.

**5**. Ваш ребенок любит играть за закрытыми дверями — 1 очко.

**6**. Ваш ребенок легко научился читать, но испытывает трудности при чтении — 2 очка.

**7**. Ваш ребенок чувствителен к любой несправедливости, даже если это не касается его самого — 2 очка.

**8**. У него есть тяга к музыке, рисованию, спортивным играм — 2 очка.

**9**. У него богатый словарный запас, и он удивляет взрослых своими суждениями — 1 очко.

**10**. Ваш ребенок любит шашки, шахматы и другие сложные игры — 2 очка.

*Теперь — время итожить. Только, чур, не завышать очки вашему любимому дитяти.*

*Итак, если вы набрали **от 8 до 10** очков — значит, ваш ребенок обладает определенными способностями.*

*Если в сумме получилось очков **больше 10** — ваше чадо ну просто вундеркинд.*

ГУМАРЭСКА

# НА ЭКСПЕРТЫЗУ

Усе мужчыны злыдні! А мой Сымон горшы за ўсіх. Узяў сабе моду: кожны дзень валачэцца з работы п'яны. Ну, не такі ўжо, каб лыка не вязаў, але і не цвярозы. А калі я пачынаю з яго здымаць габлюшкі, то ў адказ:

— І ты ж таксама п'яная!

Доўга цярпела я такую напрасліну, адкуль і сілы браліся, але аднойчы не вытрымала:

— Ах ты, нячыстая сіла, чорт кудлаты! Не тое, што ад цябе, а ўжо ад тваёй вопраткі гарэлкай смярдзіць, а ты на мяне такое вярзеш! Ідзём на экспертызу! Няхай у бальніцы дактары скажуць, хто з нас п'яны!

— Хадзем, — кажа, — калі розуму не маеш.

— Гляньце на ёлупня! Ён п'е кожны дзень, а я розуму не маю.

Апранула плюшовік, завязала канаплянку, і падаліся мы з ім з хаты. А бальніца наша стаіць за вярсту ад пасёлка, акурат у хвойнічку. Далекавата валачыся па восеньскай цемры, але я ад злосці і абурэння гатова была на самую высокую гару залезці, не тое што вярсту прайсці.

Па дарозе, на самым ускрайку пасёлка, забягалаўка ў нас ёсць, дзе такія нябогі, як мой Сымон, да ночы аціраюцца. Толькі вокны ў той будыніне ззяюць, нібы ў чорта вочы, а так наўкола цемра, хоць на ражон улезь.

Ішлі поруч, а калі параўняліся з той забягалаўкай, дзе алкашы віжуюць, Сымон, бачу, адстаў і прыляпіўся да кучкі сабутэльнікаў.

— Чаго стаў, каб ты вочы пад лоб паставіў! Дабавіць хочаш? — накінулася я на яго.

— Не бойся, даганю, — кажа.

Ну, я і пасунулася памаленьку.

Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Праўда, дагнаў неўзабаве. Чэпае ззаду, толькі гразь пад ботамі плюхае.

Усю дарогу маўчалі. А пра што гаварыць? Зараз, думаю, дактары скажуць, хто з нас мае розум, а хто не. Хай і сама ганьбу прыму, але і табе мала не падасца.

Толькі мы ўвайшлі ў хвойнічак, як на дарозе залыпала фарамі машына. Яна рухалася проста на нас. Ну, я саступіла на абочыну і далей іду. Сымон таксама саступіў, толькі на другі бок. Раптам машына тая спыняецца, і з яе выходзяць наш сусед Казік, а з ім... мой Сымон.

— Бачыш, сусед, што мая жонка вырабляе! — кажа Сымон. — Я з работы прыйшоў, а яе дома няма, па кустах з чужымі мужыкамі шастае. Чаго ты сюды з гэтым алкашом прывалаклася?

Глянула я і ледзь не ўмлела: ад забягалаўкі за мной ішоў і не Сымон зусім, а нейкі незнаёмы мужык. Чорт яго ў цемры бачыў, страхоцце гэта.

— Дык мы ж з табой на экспертызу ішлі, Сымонка... — лепячу я.

— Ведаю, на якую экспертызу ты прывалаклася ў хвойнік з чужым мужыком, — злосна кажа Сымон. — Бачыш, Казік, што робіцца? Лжэ і не чырванее. Ты паверыш, што яна ішла са мной на нейкую экспертызу? Ды на чорта мне тая экспертыза! А ёй тым больш...

— Ну і бабы, ну і дзікае семя, — прамовіў Казік, які сам міма рота чарку не пранясе.

— Ага, — паддакнуў Сымон. — Дурняў шукае. Нехта ёй паверыць.

Цяпер я свайму ёлупню нічога не кажу. Хай ён смалы нап'ецца. Бо станеш шмат гаварыць — і зноў у дурнях апынешся. Яны ж, гэтыя выпівохі, дружныя. Бачыш, і алкаша нейкага замест сябе падсунуў, і суседа падгаварыў паехаць. У, злыдні!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
25 — 31 траўня, 2000г. № 22 (155)



☺ 😐 ☹
Тащат муравьи в стельку пьяного мужика... Мужик лежит и еле-еле слышно поет:
- ЧУТЬ ПОМЕДЛЕННЕЕ КОНИ, ЧУТЬ ПОМЕДЛЕННЕЕ...

☺ 😐 ☹
В дом одной бабки провели радио. Утром в шесть часов оно впервые заговорило:
- Доброе утро!
Бабка соскочила с постели:
- Доброго здоровья! Куда это вы так рано?

☺ 😐 ☹
Сдает абитуриент экзамен по истории. Ну, как всегда, ничего не знает. Препод:
- Ну, хоть начало 2-й мировой расскажите.
Абитуриент:
- Кругом огонь, дым и танки, танки, танки...

☺ 😐 ☹
Репетиция оркестра. Дирижер ругается:
- Альты! Вы все время опаздываете на четверть такта! Тромбоны! С четвертой цифры переходим в ми-мажор, а не си-минор! Арфа! Настройте, наконец, инструмент!
Барабанщик не выдерживает и со всей силы бухает по барабану. Дирижер:
- Ну, и кто это сделал?!

☺ 😐 ☹
Студент плохо отвечает на экзамене. Профессор спрашивает его:
- Что такое, по-вашему, экзамен?
- Это беседа 2 умных людей.
- А если 1 из них - идиот?
- Тогда второй не получит стипендию.

☺ 😐 ☹
Вечер. Жена прихорашивается перед зеркалом. Рядом сидит муж и хитро смотрит на нее. Она:
- Что улыбаешься? Не иначе как опять спрятал мое вечернее платье?
- Даже и не думал.
- Врешь! А ну-ка разожми кулак!

☺ 😐 ☹
На выставке в Париже армянский коньяк с тремя звездами занял первое место, а пятизвездочный вообще не попал в призеры.
- Почему так вышло? - спросили армянских виноделов.
- Сами удивляемся! Из одной бочки наливали.

☺ 😐 ☹
Разводящий обходит посты и видит: часовой колючки с проволоки обрывает. Подходит поближе и слышит: "Любит, не любит, любит, не любит..."

☺ 😐 ☹
Ресторан. Пьяный вдрызг майор уткнулся носом в тарелку.
Официант:
- Товарищ майор, счет.
- И-и-и-р-раз!!!

☺ 😐 ☹
По тюремному двору гуляют два зэка.
- Слушай, что такое теория относительности?
- Это очень просто. Вот что ты, например, сейчас делаешь?
- Хожу.
- Это тебе только кажется, на самом деле ты сидишь.

☺ 😐 ☹
В автобусе в час пик:
- Вы выходите.
- Нет.
- А я не спрашиваю, я предупреждаю.

☺ 😐 ☹
У каждого родителя всегда есть свои плюсы и минусы, впрочем, как и у любого другого источника питания.

☺ 😐 ☹
Один мужик, решив проверить правильность пословицы "есть еще порох в пороховницах", стал регулярно подсыпать себе в еду вместо соли порох. Заметив улучшение своего состояния, он продолжил поедать сей продукт. Он прожил 108 лет, оставив после себя 10 детей, 28 внуков, 44 правнука и 5-метровую воронку на месте крематория.

# СКАНВОРД

## от Владимира ВАШУТЫ

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Толковый | | Человек-непоседа | | | | | | Вздор, чепуха | |
| | | | | | Сообщение о выполн. приказа | | Город в Беларуси | Советск. атомн. ледокол | |
| Толстая жердь | | Надежная защита | | | | | | Клеймо | |
| | | | | | Оледенелая корка | | | | |
| Уведомл. о поступл. платежн. документов | | Хранилище | | | | | | Точный | |
| | | | Город на реке Тибр | | Тьма | | | | |
| Большой промежуток времени | | Корсар | | Благородное дело | Имя няни А.С.Пушкина | Торжественное стихотворение | | | |
| | Двухтысячный | | | | | | Прилавок для торговли | | Пьеса А.Н.Островского |
| | Прием пищи | Нет войне | | | | Водное растение | | | |
| | | Для записи | Корм для скота | | | | | | На дне водоема |
| Нота | | | | | | | | Старший помощник Врунгеля | |
| | | Город в Габоне | | Коралловый остров | | | | | |
| Нота | | | | | Глаз | | | | Обращение к суду |
| Светская | Нота | Жидкое кушанье из капусты | Марка самолета | | | | Нота | | |
| | | | | Часть лица | | Отрава | | Сооружение в порту | |
| Вид одежды | | Рассказ И.Бунина | | | | Река в России | | | |

## ШКОЛЬНЫЕ ШТУЧКИ

- Вася приобрел себе собаку, когда он был еще щенком.
- Вдруг я услышал лай собаки. Это были охотники.
- Володя бежал, весело перебирая двумя ногами.
- Вот проехал автобус, увозя за собой пассажиров.
- Выбросив княжну Мэри за борт в набежавшую толпу, Степан Разин стал морально устойчивым и вернул себе доверие избирателей.
- Гагарин был первым проходимцем в космосе.
- Гамлет сумел притвориться умалишенным, а Офелия не сумела.
- Геологи пришли к своей продовольственной базе и увидели, что вся она съедена медведями.
- Герасим бросил Татьяну и связался с Му-Му.
- Герасим ел за четверых, а работал один.
- Герасим поставил на пол блюдечко с молоком и стал тыкать в него мордочкой.
- Гитарист взял гитару и стал с ней играть.
- Гоголь страдал тройственностью, которая заключалась в том, что одной ногой он стоял в прошлом, другой приветствовал будущее, а между ног у него была страшная действительность.
- Голова ее была заплетена в длинные косы.
- Графиня ехала в карете с приподнятым, сложенным в гармошку задом.
- Грушницкий тщательно целил в лоб, пуля оцарапала колено.
- Даже если дворяне не понимали друг друга, они все равно говорили по-французски.
- Два часа шел, три часа полз - вот путь коммуниста!
- Дворян гораздо чаще вызывали на дуэль, чем к начальству.
- Дед был одет в толковые рваные штаны с заплатами.
- Денис Давыдов повернулся к женщинам задом и выстрелил два раза.

## ОТВЕТЫ НА СКАНВОРД (№21)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | А | | | Р | | | А | | И | |
| А | Р | Е | К | А | | С | С | У | Д | А |
| | Т | | У | К | С | У | С | | И | |
| Т | И | А | Р | А | | Д | | Б | О | К |
| | Ш | | Г | | Л | А | Н | И | Т | А |
| П | О | М | А | З | О | К | | В | | Н |
| | К | А | Н | | Б | | С | А | Л | О |
| | | Н | | А | Б | А | Л | К | И | Н |
| П | Е | К | А | Р | И | | Ю | | С | И |
| | Р | А | | Х | | И | Н | Ж | И | Р |
| | М | | С | А | И | Р | А | | Ц | |
| Р | О | Т | О | Р | | В | | Б | А | Л |
| | Л | | Ф | | К | А | Д | Р | | И |
| А | К | Т | И | Н | И | Й | | И | Г | О |
| | А | У | Т | | О | Н | Е | Г | И | Н |

СЛОВО-пароль: **РОТАТОР**

# ГОРОСКОП

от WWW.IGNIO.COM

## с 25 по 31 мая


ОВЕН

Ситуация позволяет обдумать и воплотить в жизнь решения, которые могут изменить Вашу жизнь. Знание всех мелочей, внимательность и сосредоточенность обеспечат желанный успех. Возникнут предпосылки для профессионального роста. Прислушайтесь к идеям коллег по работе, они могут оказаться удачными.


ТЕЛЕЦ

Чтобы достичь успеха, придется поступиться мелкими желаниями и запастись терпением. Ваши представления о смысле жизни могут измениться. Реально оценивайте силы и возможности коллег по работе, если им что-то не под силу, почему бы Вам не попробовать им помочь? Вы можете значительно улучшить себе настроение, реализовав пару-тройку собственных идей.


БЛИЗНЕЦЫ

Наступает время, когда Вы становитесь центром внимания. Вы словно освещены внутренним светом. Желательно собраться с силами и завершить дела, начинать воплощать в жизнь новые проекты. Научитесь по-новому воспринимать ситуации, приобретайте навыки — и успех в решении проблем Вам обеспечен.


РАК

Интуиция - Ваш друг и союзник, поэтому, прежде чем соглашаться с чем-либо, прислушайтесь к себе, и если это предложение придется Вам не по душе, то не стоит давать согласие. Желательно научиться чему-нибудь новому и так необходимому для Вас. В этом можно рассчитывать на помощь своих друзей. Храните свои сокровенные тайны подальше от чужих ушей и глаз.


ЛЕВ

Ситуация способствует раскрытию Ваших разнообразных талантов. Ваша задача - постараться использовать их. К Вам будут неоднократно обращаться, советоваться по профессиональным вопросам, это позволит раскрыть качества Вашей личности с лучшей стороны. Не ленитесь узнать что-то новое. Вам предстоит принять важное решение, только не бросайтесь в крайности, это не только не поможет, но запутает ситуацию.


ДЕВА

Работа - одна из значимых ценностей в Вашей жизни. Вашей активности и сосредоточенности можно только позавидовать. Постарайтесь распределить время так, чтобы его хватило и на решение семейных проблем. Если Вы учитесь, то приятно поражаете окружающих энциклопедичностью и глубиной своих знаний.


ВЕСЫ

Чтобы добиться всеобщего признания и успеха, нужно чем-то пожертвовать. Однообразие окружающих Вас людей и предметов утомит Вас, попробуйте изменить свой имидж и манеру поведения. Однако не стоит опускаться до откровенного эпатажа, будьте предельно вежливы и корректны с коллегами по работе, ведите себя естественно и свободно.


СКОРПИОН

Умерьте свои амбиции и постарайтесь укротить свой необузданный нрав. Вспышки гнева и давление на окружающих не могут не привести к конфликтам. Окружающие попытаются учить Вас жить, отнеситесь к этому скептически и без эмоций, представьте, что это шумовой эффект (можете попросить помочь материально). Стоит отойти в сторону на некоторое время, для того чтобы собраться с силами и обрести веру в собственные силы и душевный покой.


СТРЕЛЕЦ

От того, как Вы будете вести себя на этой неделе, зависит весьма многое. В любой ситуации не теряйте чувства собственного достоинства, объективно оценивайте Ваши силы и не давайте обещаний, которые Вы не сможете выполнить. Ваши действия должны быть продуманы и позволять экономно расходовать Ваши силы.


КОЗЕРОГ

Фортуна будет к Вам благосклонна, постарайтесь не упустить этот шанс, но умейте отличить его от обольщения. Делайте то, что подсказывает Вам здравый рассудок, и Вы не ошибетесь. Старайтесь не принимать участия в спорах, будьте выдержанны.


ВОДОЛЕЙ

Эта неделя будет достаточно напряженной. Работа потребует много сил и времени. Вы оцените, что значит для Вас свобода и насколько она необходима. Изобретательность даст возможность блестяще выйти из самых замысловатых жизненных ситуаций. Мотивы поступков желательно конкретизировать, иначе фантазия может полностью завладеть ими. Вашим друзьям необходима помощь, постарайтесь проявить по отношению к ним заботу и внимание.


РЫБЫ

Иногда свои интересы необходимо отстаивать, собраться с силами и уверенно аргументировать свои позиции. Планы будут реализовываться в том случае, если в них есть хоть капля реализма. Новая информация о Вашей профессиональной деятельности будет полезна для Вас и позволит появиться на свет новым плодотворным идеям.

Поздравляем с днём рождения Диму ОНАЧЕНКО!

## ДИМОЧКА!



Здоровья, счастья и удачи
Тебе желаем всей душой.
Прожить лет сто и не иначе,
Ещё любви взаимной и большой.
Пусть стороной тебя обходит зло,
А в жизни чтоб тебе всегда везло.

**С любовью мама и бабушка**

Поздравляем

## Надежду Антоновну ЖИВНЕРОВСКУЮ

с 20-летием!

У тебя сегодня юбилей.
И мы от всей души желаем
Прожить много-много лет,
Печали, горести не зная.
Пусть ангел твою жизнь хранит,
Ведь в жизни всякое бывает.
Пусть горе в двери не стучит,
А радость пусть не забывает.

**Коллектив консервного цеха совхоза "Молодая гвардия"**

Любимого сына и брата

## Андрея Владимировича ГУСЕВА

поздравляем с днём рождения!



Желаем в работе тебе вдохновенья,
В кругу семьи — тепла и доброты,
Среди людей — любви и уваженья,
А в личной жизни — сбывшейся мечты.
Пусть ангел жизнь твою хранит,
Ведь в жизни всякое бывает.
Пусть горе в двери не стучит,
А радость пусть не забывает.

**С любовью и уважением мама, сестра Лена, швагер Коля, племянница Наташа, племянник и крестник Артём**

От всей души поздравляем с днём рождения

## Наталью ПРОКОПОВИЧ!

Желаем тебе крепкого здоровья, счастья, радости, тепла и всего самого светлого.

Будь самой весёлой, будь самой счастливой,
Хорошей и нежной, и самой красивой.
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной.
Пусть беды с дороги уходят в бесcилье,
Пусть сбудется всё, что желаешь сама,
Любви тебе, веры, надежды, добра.

**С уважением Татьяна, Сергей, семья Ефимовичей**

Дорогая и любимая доченька

## Наталья ПРОКОПОВИЧ!

От всей души поздравляем тебя с 25-летием.
Желаем тебе счастья, здоровья, успехов в работе и личной жизни.

Пусть в жизни твоей не оставят печать
Ни удары судьбы, ни беда, ни печаль.
Желаем тебе только радостных дней,
Здоровья, достатка и верных друзей.

**Любящие тебя родители**

Дорогой и любимый муж, папочка, зять и швагер

## Вячеслав Владимирович БОРУК!

От всей души поздравляем тебя с 25-летием.

Сегодня день не для печали,
Должны быть песни, смех, цветы,
Чтоб поздравления звучали,
Ведь в этот день родился ты.
Мы поздравляем тебя с этим
Весенним, светлым, ясным днём.
Пусть всё хорошее на свете
Стучится в твой сегодня дом.
Желаем быть всегда красивым,
Всегда любимым, молодым,
В кругу семьи — всегда счастливым,
В кругу друзей — всегда простым.
Живи, родной наш, долго-долго
И не считай свои года.
Пусть радость, счастье и здоровье
Тебе сопутствуют всегда.



**С уважением любящие тебя жена, сын, тёща и тесть, швагерки**

Дорогой и любимый муж и отец

## Михаил Александрович ЛАЗАРЬ!

От всей души поздравляем тебя с днём рождения.
Желаем счастья, радости, добра и крепкого здоровья.



С днём рождения тебя поздравляем!
Счастья, радости в жизни желаем,
Чтоб прожил весь этот год
Без тревог и без хлопот.
Чтобы чаще улыбался.
Чтобы все мечты сбывались,
И в году чтоб этом новом
Непременно был здоровым!

**С любовью и уважение жена и дети**

Дорогая мамочка

## Надежда Адамовна БУЛАК!

Поздравляем тебя с днём рождения.



Спасибо, мама дорогая.
За твой нелёгкий труд!
За нас, детей, что ты взрастила,
За то, что ты душой красива.
За это всё — земной поклон!
Здоровой будь и счастливой,
Останься вечно молодой,
Всегда, всегда для нас красивой!

Самые наилучшие пожелания в твой день рождения.

**С уважением дочь, сыновья, бабушка, муж, невестка и внучки**

Дорогая

## Лариса Викторовна БОРИСИК!

От всей души поздравляем Вас с юбилеем.

Желаем здоровья, успехов,
А если слезинку,
То только от смеха.
Пусть жизнь твоя будет прекрасна,
В доме погода только ясной,

Пусть всю жизнь тебя согревает любовь родных и близких людей.

**С уважением семьи Кухарчик, Буровых**

Дорогая и любимая мамочка и бабушка

## Лариса Викторовна БОРИСИК!

От всей души, с огромной любовью и нежностью поздравляем тебя с юбилеем.
Желаем крепкого здоровья, счастья, мира и добра.

Пусть печали в твой дом не заходят,
Пусть болезни пройдут стороной.
Мы весь мир поместили б в ладони
И тебе подарили одной.
Но и этого было бы мало,
Чтоб воздать за твою доброту.
Мы всю жизнь, наша милая мама,
Пред тобой в неоплатном долгу.
Спасибо, родная, за то, что растила,
За то, что взамен ничего не просила,
Во всём лучшей доли желала ты нам.
Красива, заботлива, нежно нежна.
Ты нам ежедневно и вечно нужна!

**Любящие тебя Женька, Ленка, Олег и внученька Маргаритка**

Дорогой папочка и любимый муж

## Александр Иванович РЕГИНЕВИЧ!

От всей души поздравляем тебя с юбилеем.
Желаем тебе всего самого доброго, чистого и святого.

Юбилей - чудесный праздник.
Всей семьёй спешим сказать:
Дай Бог сил, здоровья много,
Долго жить и счастье знать.
В пятьдесят жива надежда,
Не спеши худого ждать.
Пусть наполнят твоё сердце
Мир, Любовь и Благодать.



Мы тебя крепко любим, обнимаем и целуем!

**Твоя жена Людмила и сыновья Владимир и Александр**

Дорогой наш и любимый муж, отец и дедушка

## Пётр Кузьмич ЛАШКО!

Поздравляем тебя с юбилеем!

Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом,
Улыбки светлой на лице
И солнечных лучей в награду.

Мы возраст твой считаем не годами,
А добротой, и лаской, и теплом.
И пусть всегда ты будешь с нами
За этим праздничным столом.

**С уважением любящие тебя жена, сын Виктор и его семья**

Поздравляю с 40-летием

## Виктора Ивановича ГАТАЛОВА!

Не трать свои нервы напрасно,
Здоровья не купишь нигде.
Пусть жизнь твоя будет прекрасна,
Я счастья желаю тебе.
И пусть хранит тебя Господь,
Коль это в его власти.
Здоровья, радости, любви
И много в жизни счастья.

**Мама**

Дорогая, любимая наша племянница

## Татьяна Алексеевна АЛЬШЕВСКАЯ!

С огромной нежностью и теплотой поздравляем тебя с днём рождения.

Всё, что в жизни звучит красиво,
Мы хотим пожелать тебе,
Чтобы ты была самой счастливой
В этом мире, на этой земле.

**С любовью и уважением сестра Валентина с мужем, племянницы Татьяна и Галина с семьями**

## Конкурс УсмешкА



Фота Ганны РЫНДА



Фота Алены ЖЫЛІНСКАЙ

НАША ІНТЭРВ'Ю

## Аляксандр АНІСЬКА: "Слонім зноў будзе ПЕРАМАГАЦЬ"



**Аляксандр Аніська — вядомы ў Слоніме чалавек. Кандыдат у майстры спорту па шашках, кіраўнік шашачнага гуртка пры Цэнтры творчасці дзяцей і юнацтва. Чалавек, улюбёны ў гэты від спорту, энтузіяст. Сёння наша размова з ім.**

***— Аляксандр, раскажы трохі пра сябе.***

— Нарадзіўся ў вёсцы Старыя Дзявяткавічы Слонімскага раёна ў 1959 годзе. Маленькая такая вёсачка. Вучыўся спачатку ў школе ў сваёй вёсцы, а пасля ў Новадзявяткавічах. Колькі сябе памятаю, захапляўся шашкамі. Не ведаю, адкуль гэта захапленне ў мяне. У сям'і ніхто ў шашкі не гуляў, ды і ў самой вёсцы таксама...

Шашыстам стаў, дзякуючы газеце "Чырвоная змена", якая праводзіла шашачны конкурс. Я вучыўся ў шостым класе, прыйшоў да свайго дзядзькі, а ён выпісваў гэтую газету. Заданні конкурсу я рашыў. Потым быў новы конкурс. Па яго выніках мяне ўзнагародзілі шашачнай літаратурай.

У той час у Новадзявяткавічах ужо былі моцныя традыцыі шашыстаў. Можна згадаць Мікалая Іванавіча Якуту, мацнейшага шашыста Слонімшчыны 80-х — пачатку 90-х гадоў, які рана пайшоў з жыцця. Можна ўспомніць братоў Суцькоў, Крэчыкаў. Шмат шашыстаў выйшла з нашых мясцін. Трэба згадаць і Юрыя Максімавіча Чайкоўскага, кандыдата ў майстры спорту па шашках, які цяпер з'яўляецца загадчыкам аддзела па фізічнай культуры і спорту Дзятлаўскага райвыканкама. Ён наш зямляк з вёскі Шыганы.

***— А ў чым загадка такой папулярнасці шашак у Новадзявяткавічах?***

— Нават і не ведаю. Яшчэ раней мы з Мікалаем Якутам шмат думалі пра гэта. Існуюць розныя версіі...

***— Якой табе запомнілася вёска тых гадоў?***

— Самыя прыемныя ўспаміны засталіся ў мяне пра той час. У Старых Дзявяткавічах было многа дзяцей, вельмі цікава праводзілі вольны час. Летам гулялі ў футбол, зімой — у хакей. А па вечарах — у шашкі, разам з дарослымі.

***— А калі ты стаў прафесійна займацца шашкамі?***

— Перад арміяй я вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Там былі вельмі моцныя шашысты, і выкладчыкі, і студэнты. Вось там мне ўпершыню давялося паўдзельнічаць у спаборніцтвах. Тады я выканаў першы разрад, пазнаёміўся з некаторымі шашыстамі.

Пасля войска працаваў на камвольна-прадзільнай фабрыцы. Па меры сіл і магчымасцяў стараўся гуляць у шашкі, удасканальваў сваё майстэрства. Гуляў па перапіссы, удзельнічаў у рэспубліканскіх турнірах, і даволі паспяхова. І нават ва ўсесаюзных. Напрыклад, калісьці праводзіўся турнір памяці Уладзіміра Высоцкага, у якім я ўдзельнічаў.

Жыццё мае пайшло па-другому ў лютым 1994-га года. Да мяне прыйшоў Мікалай Іванавіч Якута і прапанаваў займацца шашкамі з дзецьмі. Я згадзіўся. Дапамогу нам вялікую аказаў тагачасны загадчык аддзела адукацыі Алег Лакцюшын. Ён адразу выдзеліў памяшканне. У лютым 1994-га мы пачалі заняткі шашачнага гуртка. Гэта быў пачатак адраджэння слонімскіх шашак. Першы набор дзяцей быў самы ўдалы. Зразумела, спачатку прайгравалі ўсе турніры, але ўжо праз год з'явіліся першыя поспехі. Мы з Якутам пачыналі на роўным месцы. Метадычных распрацовак амаль не было. Выкарыстоўвалі шашачную літаратуру, уласны досвед.

У сакавіку 1995 года Мікалай Іванавіч Якута раптоўна памёр. Вёў нейкі час я гурток адзін, але адняму было вельмі цяжка. І работа, і занятки. У рэшце рэшт, у верасні 1996-га я вырашыў заняцца прафесійна шашкамі.

***— І колькі дзяцей прайшло за гэтыя гады праз шашачны гурток? Ці ёсць такая статыстыка?***

— Цяжка сказаць колькі, бо я ніколі не падлічваў.

***— Наколькі папулярны гэты від спорту на Гродзеншчыне?***

— Сення Гродзеншчына — гэта цэнтр шашак на Беларусі. Самая моцная каманда ў нашай вобласці, нават у Беларусі — у Ваўкавыску. Трэнер там працуе 15 гадоў, і вось цяпер у яго з'явіліся вельмі таленавітыя выхаванцы. Адзін з іх у 12-гадовым узросце сёлета стаў чэмпіёнам Беларусі сярод дарослых. Апярэдзіў нават міжнародных гросмайстраў.

У 1996-98 гадах слонімская каманда была адной з мацнейшых юнацкіх каманд у Беларусі. Мы выйгравалі практычна ўсе рэспубліканскія турніры. Цяпер назіраецца невялікі спад, але гэта непазбежна. Нельга заўсёды быць у лідэрах. Адны шашысты пайшлі, другія прыйшлі. Цяпер з'явіліся ў мяне зусім юныя выхаванцы, якія праз год-два будуць паказваць добрыя вынікі. І, мяркую, што Слонім зноў будзе перамагаць.

***— Аляксандр, як ты лічыш, што патрэбна для плённага развіцця гэтага віду спорту ў такім горадзе, як Слонім?***

— Як і ў любым відзе спорту, патрэбна ўвага з боку прадстаўнікоў улады, патрэбны спецыялісты, якія маглі б гэтым займацца. Я пакуль не магу паскардзіцца на адносіны з боку розных службовых асоб у Слоніме. Дапамагаюць усе. Асабліва вялікая дапамога ідзе ад аддзела па фізічнай культуры і спорту гарвыканкама і яго загадчыка Генадзя Станіслававіча Вількіцкага. Дапамагае і аддзел адукацыі. Ёсць спонсары: камвольна-прадзільная фабрыка, мясакамбінат, упраўленне магістральных газаправодаў, прыватныя прадпрымальнікі. Наогул, каб дасягнуць майстэрства, неабходны рэгулярны ўдзел у спаборніцтвах. Дастаткова прапусціць месяц-два, і ўжо падае спартыўны ўзровень, і дух спаборніцтваў губляецца.

Праўда, шашкам пашанцавала, што гэта параўнальна не дарагі від спорту. Інвентар даволі танны, і яго хапае на шмат гадоў. Выдаткі ў нас толькі на камандзіроўкі, паездкі. У апошнія гады ў Беларусі назіраецца пад'ем шашак, з'яўляецца вельмі многа шашачных цэнтраў. І я нават не ведаю, з чым гэта звязана.

***— Якія турніры лічацца прэстыжнымі ў Беларусі?***

— На сенняшні дзень ёсць чатыры такіх турніры, якія праводзяць самі арганізатары. Найперш, гродзенскі турнір "Рыцары думкі", у Віцебску праводзіцца турнір памяці знакамітага лётчыка Аляксандра Гараўца. Потым "па рэйтынгу" ідзе наш турнір "Юныя таленты", які прысвечаны памяці Мікалая Якуты. Адзначу, што па колькасці ўдзельнікаў наш турнір з'яўляецца лідэрам. У мінулым годзе ўдзельнічала 18 каманд, у тым ліку 2 з Літвы. Астатнія турніры збіраюць 10-12 каманд. Чацвёрты турнір, з якога мы надаўна прыехалі, называецца "Боль Чарнобыля". Ён праводзіцца ў Клімавічах Магілёўскай вобласці.

***— Ці ўдалося слонімскім шашыстам удзельнічаць у міжнародных турнірах?***

— Былі тры разы на Украіне. У гэтым годзе пабывалі ў Латвіі.

***— Хто на сёняшні дзень лічыцца лепшым шашыстам Беларусі?***

— Лепшым шашыстам Беларусі апошніх гадоў з'яўляецца міжнародны гросмайстар Андрэй Валюк, мой добры сябра. Яго першы турнір прайшоў менавіта ў Слоніме. Сёння Валюк з'яўляецца віцэ-чэмпіёнам свету. Але так здарылася, што на прайшоўшым чэмпіянаце Беларусі ён заняў толькі другое места...

***— Колькі часу адымаюць у цябе шашкі? Ці застаецца яшчэ час на іншыя захапленні?***

— Вядома, я толькі на шашках не замыкаюся. Я вялікі аматар розных відаў спорту, асабліва футбола. У вольны час люблю чытаць. Сярод беларускіх пісьменнікаў найбольш мне падабаецца Янка Маўр. Вось на днях перачытваў яго апавесць. Вельмі люблю творы Уладзіміра Караткевіча, сучасную фантастыку. Яшчэ люблю бываць у бацькоў у вёсцы. Працаваць на зямлі. Люблю касіць. Такі своеасаблівы адпачынак.

***— Якія шашачныя традыцыі існуюць у Слоніме?***

— Яны даўнія. Напрыклад, першы майстар спорту па шашках на Гродзеншчыне — гэта слонімец Іван Мікалаевіч Мялешка, які атрымаў гэта званне ў 1968 годзе. Былі добрыя шашысты ў Слоніме і ў даваенны час, але пра іх вядома вельмі мала. Эстафету ад іх пераняли мы.

***— Колькі гадоў налічвае гісторыя шашак?***

— Гэта адна са старэйшых гульняў. Яе гісторыя налічвае не менш 5 тысяч гадоў. Шашкі былі знойдзены ў грабніцы егіпецкага фараона Тутанхамона. А фараонам у грабніцу звычайна клалі іх любімыя рэчы... Наогул, гісторыя багацейшая. На жаль, гісторыя беларускіх шашак пакуль яшчэ не распрацавана. А Беларусь на сенняшні дзень з'яўляецца адной з вядучых шашачных дзяржаў. Менавіта наша краіна была пераможцай апошняй шашачнай алімпіяды.

**Сяргей ЁРШ**



*Слонімцы ў Алітусе, 1989 г. Злева направа: Іван Мялешка, Аляксандр Аніська, Юрый Чайкоўскі, Мікалай Якута.*

ФУТБОЛЬНЫ АГЛЯД

## ГЕНАДЗЬ БАБОШКІН падаў у адстаўку

**23 траўня слонімскі "Камунальнік" пацярпеў у Гродне сакрушальнае паражэнне ад мясцовага "Нёмана-Белкарда" — 0:8...**

Пра такі вынік матча карэспандэнту «ГС» паведаміў па тэлефоне з Гродна генеральны менеджэр «Камунальніка» Генадзь Бабошкін. Ён таксама заявіў, што бярэ на сябе асноўную віну за няўдалую камплектацыю і выступленне каманды ў чэмпіянаце, і таму падае ў адстаўку. Цікава, якія захады, у сувязі з гэтым, прыме кіраўніцтва клуба, каб выправіць сітуацыю. Невядома, чаго можна чакаць ад нашай каманды ў чарговай гульні 31 траўня, калі "Камунальнік" будзе прымаць на сваім полі барысаўскі БАТЭ. На сённяшні момант «Камунальнік» трывала замацаваўся на апошнім месцы ў турнірнай табліцы.

У першай лізе мастоўскі "Нёман" правёў дзве гульні на выездзе і абедзьве прайграў. У Бярозе мастаўчане, не гледзячы на тое, што першыя адкрылі лік у матчы (на 33 мінуце гол забіў Аляксей Сучкоў), саступілі мясцоваму "Кераміку" 1:3. У нядзелю "Нёман" гуляў у Жодзіна з мясцовым "Тарпеда" і зноў прайграў — 1:2 (у мастаўчан гол на рахунку Мацюка). Апошнія гульні пагоршылі турнірнае становішча мастаўчан, якія цяпер займаюць толькі шостае месца, а лідзіруе, па-ранейшаму, "Лунінец".

На чэмпіянаце вобласці сярод юнакоў 1988 г. н. слонімскі "Талант-Альбярцін" у Ваўкавыску прайграў мясцовай камандзе СДЮШОР 1:2. Ужо на першай мінуце слонімцы не забілі пенальці і гэта паўплывала на далейшы ход гульні.

**Сяргей ЁРШ,**
**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ГРЭБЛЯ

## НОВЫЯ МАЙСТРЫ СПОРТУ

**17 траўня выхаванцы слонімскай ДЮСШ № 2 Аляксей Кульгавы, Іван Грыгорчык і Андрэй Дубіна былі прыняты ў гарвыканкаме, дзе ім былі ўручаны ганаровыя граматы і каштоўныя падарункі.**

Нагодай для гэтага стала тое, што Кульгавы атрымаў званне майстра спорту міжнароднага класу, а Грыгорчык і Дубіна сталі майстрамі спорту. Аляксей Кульгавы дабіўся такога поспеху дзякуючы другому месцу на нядаўнім чэмпіянаце свету сярод юніёраў на дыстанцыі 1000 метраў на каноэ-двойцы. Іван Грыгорчык і Андрэй Дубіна былі трэцімі на каноэ-двойцы на "дарослым" чэмпіянаце Беларусі. Папярэдне ўсе тры гэтыя слонімскія спартсмены былі адабраны для ўдзелу ў чэмпіянаце Еўропы.

**Сяргей ЁРШ**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Аляксей Кульгавы, Андрэй Дубіна і Іван Грыгорчык*

### Золата ў нашых

**На сусветным першынстве па грэблі на байдарках і каноэ, якое праходзіла ў Бельгіі, на дыстанцыі 500 метраў зборная Беларусі заваявала залатыя медалі.**

Трэба адзначыць, што ў складзе нацыянальнай каманды выступалі і мастачанкі Алена Бець і Святлана Вакула. Рыхтаваў каманду да спаборніцтваў таксама мастаўчанін, заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь, дырэктар мясцовай спартыўнай школы Пётр Рудзевіч.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ГАНДБОЛ

### Закончыўся чэмпіянат

**Нядаўна завяршыўся чэмпіянат Беларусі па гандболу сярод жаночых каманд.**

"Мясакамбінат-Універсітэт" (Слонім-Гродна) у апошнім туры гуляў у Гомелі з мясцовым "Універсітэтам" і двойчы прайграў 19:22 і 20:23. З-за гэтых паражэнняў нашы гандбалісткі прапусцілі наперад гамяльчанак і занялі ў чэмпіянаце толькі пятае месца. Чэмпіёнам Беларусі ў чарговы раз стала мінская каманда БДПА.

**Алег ТАЧОНЫ**